Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі .. ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 4 (92) | Вільня, 11-га красавіка 1936 г. | Год 4-ты.

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

## Як дамагацца роднае школы.

Справа роднае беларускае школы ніколі ня сходзіла з старонак „Роднага Краю“, а ў сучасны мамэнт, калі надыходзіць якраз час складаньня дэклярацыяў, яна набірае асабліва важнага значэньня.

Месяц таму назад пачалі шырокую школьную акцыю ТБШ і БІГіК, выпусьціўшы 26.II.1936 супольную дэклярацыю аб утварэньні адзінага школьнага фронту.

Пазьней, гэтымі-ж арганізацыямі была выдадзена спэцыяльная інструкцыя аб тым, як дамагацца дзяржаўнай публічнай беларускай школы на падставе закону 31. II. 1924 г. ды загаду Міністра Асьветы з дня 7. I. 1925 г.

Акром таго вышэйуспомненыя арганізацыі апублікавалі 29. II. 36 г. ў гэтай-жа справе адозву да Беларускага Народу!

Разглядаючы факт супольнага фронту БХД і ТБШ, у папярэднім нумары „Роднага Краю“ мы выказалі свае пэўныя засьцярогі, што да магчымасьці пазытыўных вынікаў гэнае акцыі, маючы на ўвазе тое, што яна вельмі лёгка можа ператварыцца ў дэманстрацыю, якую саўсёды выкарыстаюць для сваіх мэтаў „цёмных дарог махляры“!

ТБА, па прыкладу мінулых гадоў, будзе вясьці школьную акцыю самастойна, а прыймаючы пад увагу тыя фармальна-праўныя труднасьці, з якімі зьвязана справа адчыненьня новае ці ператварэньня існуючай школы на беларускую, выбрала наступны шлях для асягненьня пастаўленай мэты.

Усе тыя, што хочуць адчыніць беларускую школу, павінны паведаміць аб гэтым ТБА, падаючы адначасна наступныя дадзеныя:

1) вёска (назоў).
2) павет „
3) воласьць „
4) колькасьць дзяцей у школьным веку.

5) Імя, прозьвішча і адрэс таго, хто стараецца ад імя ўсіх бацькоў адчыніць школу.

Па адтрыманьні гэных дадзеных, ТБА вышле на месца свайго дэлегата, які і выканае ўсе неабходныя фармальнасьці як у воласьці, так і ў Школьнага Інспэктара, а калі трэба будзе то і ў Віленскага Школьнага Куратара.

Такія заявы аб адчыненьні школы трэба прысылаць ў ТБА ці рэдакцыю „Роднага Краю“ заказным пісьмом да **15 чэрвеня 1936 г.**, бо 20-га чэрвеня дэлегаты ТБА ўжо выедуць на месцы, падзяліўшы паміж сабою раёны.

Зазначаем пры гэтым, што, згодна з законам, для адчыненьня беларускае школы трэба мець у школьным раёне ня менш 40 дзяцей у школьным веку (ад 7—14 гадоў).

Уважаем, што мэтад, выбраны ТБА, дасьць больш пазытыўных рэзультатаў ды абароніць сялян ад лішняга клопату.

*Мо' яшчэ ня ўсім ведама, што мэтаю Т-ва Беларускае Асьветы зьяўляецца: праца над разьвіцьцём беларускае культуры, пашырэньнем школьнае і пазашкольнае асьветы сярод беларусаў у іх роднай мове, падняцьцем маральнага роўня і пазнаваньнем польскае культуры і культуральных асаблівасьцяў іншых народаў, якія жывуць на супольнай тэрыторыі з беларусамі.*

*Мо' яшчэ ня ўсім ведама, што дзеля правядзеньня ў жыцьцё успомненае мэты Т-ва Бел. Асьветы мае права закладаць гурткі і акружныя аддзелы. Урад ТБА можа залажыць гурток на жаданьне 5 асоб, якія зьяўляюцца сябрамі Т-ва.*

*Гурток, у паразуменьні з Урадам Т-ва, мае права:*

*а) закладаць, утрымліваць і падтрымліваць беларускія школы ўсіх відаў і ўсіх ступеняў, курсы граматы, агульна-ўзгадаваўчыя і спэцыяльныя для дарослых, курсы завочныя, бурсы для школьнае моладзі, бібліятэкі, чытальні і народныя дамы дзеля асьветы і таварыскае гульні;*

*б) выдаваць і пашыраць беларускія кніжкі і часопісі;*

*в) дапамагаць разьвіцьцю ўсіх відаў беларускага мастацтва, асабліва народных мастацкіх вырабаў;*

*г) арганізоўваць выстаўкі, зьезды, экскурсіі з культурна-прасьветнымі мэтамі, ладзіць публічныя лекцыі, абходы, спэктаклі і канцэрты і з гэтай мэтай тварыць драматычныя дружыны і хоры, сталыя і аб'ездныя;*

*д) ладзіць грамадзкія зборы і даходныя імпрэзы;*

*е) выступаць перад дзяржаўнымі і самаўрадовымі ўладамі з ініцыятывай ува ўсіх справах беларускага культурнага жыцьця і супрацоўнічаць з культурна-асьветнымі арганізацыямі польскімі і іншых народаў, якія жывуць на супольнай тэрыторыі з беларусамі.*

*Асьвета ў штодзенным жыцьці для чалавека тое самае, што амуніцыя для салдата ў часе вайны.*

*Дык уступайце ў сябры Т-ва Беларускае Асьветы, каб супольнымі сіламі здабыць гэтак патрэбнае ў жыцьцёвай барацьбе аружжа.*

*Каб стацца сябрам ТБА, трэба злажыць заяву да Ураду Т-ва—Вільня, Езуіцкая 6-4.*

## Дурната ці правакацыя?

Ад пачатку роду чалавечага людзі ў працягу тысячалецьцяў асьцярожна, рупліва, не шкадуючы ніякіх клопатаў, абыходзяцца з тымі маленечкімі „людзьмі“, якія растуць і *вучацца* быць людзьмі дарослымі.

Кожны народ. кожнае племя, кожная сям'я *шануе дзеці* і, як можа рупіцца аб іх. Нават, апынуўшыся на дне жыцьця, чалавек ня губляе асаблівае чуласьці да дзяцей.

Даволі прыпомніць, што ў вядомай п'есе вялікага расейскага „песьняра басякоў“—Максіма Горкага — „На дне“ адзін з герояў — Лука, — трэба думаць зусім бязьдзетны, як і зусім відочна бяздомны бадзяка,—папаўшы ў начлежны дом Кастылёва, у асяродзьдзе людзей, выбітых з жыцьцёвых каляінаў, разважае аб дзецях усё-ж такі *палюдзку*, проста і мудра. Ён кажа, паміж іншым, што ўсіх людзей шанаваць трэба, а *асабліва дзетак трэба шанаваць*, бо няведама, што ў кожным з іх крыецца, што з яго выйдзе... І, як асуд людзкое несправядлівасьці, дзікасьці і неасьцярожнасьці ў фармаваньні душы „маленькага чалавека“, гучаць словы іншага героя горкаўскага „дна“—Ваські Попела, вырабіўшага ў сабе цьвёрды пагляд на самога сябе: злодзеем ён выйшаў таму, што іншага тытулу для сябе ня чуў ад людзей; „Васька будзе злодзей“, — чуў ён яшчэ ў калысцы,—„злодзей вырасьце з яго“, — чуў ён, калі пачаў падрастаць-—„Дык злодзей я і выйшаў“, — заключае ён з рашучым пераканаданьнем, ужо ў дарослым, поўным сілы, веку, апынуўшыся „На дне“.

Ці-ж трэба каму-небудзь сягоньня даказваць, што дзіцячая душа гэта як быццам той чысты аркуш паперы, на якім дарослы чалавек можа выпісаць усё, што хоча?

Цяжкая псыхолёгічна ды высока-адказная праца пэдагогаў, і яна культурным чалавецтвам цэніцца высока. Не дарма чулася перад вайною сярод немцаў, што народны настаўнік стварыў Нямеччыну магутнай.

Сучаснае шыбкае тэмпо жыцьця, эпоха цывілізацыі, змушае і пэдагогаў прысьпяшаць тэмпо навучаньня, шукаючы найдасканальнейшага ключа да дзіцячай душы, найлепшага мэтоду выкладаньня, каб душа будучага чалавека фармавалася якнайхутчэй і каб ні мінуты часу ня гінула дарма пры азбройваньні гэтае душы ў веду, пры асяганьні чалавекам асьветы.

Найлепшы ключ да дзіцячай душы—гэта *мова яго роднае маткі*, мова народу, сярод якога дзіця на сьвет прыйшло.

Вучыць дзіця спачатку *чужое* для яго абкружэньня мовы, а пасьля на гэтай чужой мове даваць яму асьвету — гэта дарэмнае марнаваньне дарагога часу ў цяперашні век.

Гэта і кожнаму з беларусаў робіцца ясным і ў пытаньні аб *патрэбе для беларускіх дзяцей свае роднае школы ўсё беларускае грамадзянства напэўна аднадушна зыходзіцца паглядам.*

Справа іншая, *як да вырашэньня гэтае патрэбы ісьці — справа тактыкі.*

Тут ужо маем выразныя разыходжаньні: адны пагружаюцца ў скромную рэальную працу, другія — ідуць шляхам гучных дэмонстрацыяў.

Група пэдагогаў, як можа і ўмее, працуе шчыра ў адзінай цяпер беларускай сярэдняй школе ў межах Польскае Рэспублікі. Ёсьць беларускія бацькі, якія не глядзяць на ніякія труднасьці крызыснага часу і аддаюць сваіх дзяцей у Беларускую Гімназію, пасылаючы іх, няраз за сотні кілёмэтраў, у Вільню.

І сьвядомая часьць нашае інтэлігенцыі, дзе-б яна ні была, адносіцца да гэтай адзінай у нас сярэдняй беларускай школы з поўным паважаньнем.

Ёсьць аднак і іншага гатунку беларуская, калі і ня зусім хіба інтэлігенцыя, дык групкі і людзі, якія на інтэлігентнасьць прэтэндуюць. Там, у лягеры гэткіх інтэлігентаў і згрупаваных каля іх прэтэндэнтаў на інтэлігентнасьць, *жніво*, як быццам выглядае ўбога, затое „дзеячоў“... шмат. Там кожны ўчарашні гімназісты, а часамі

поўны анальфабэт зайздросьціць лаўрам каго хочаце, іншы раз дык і „славе“ самога Леніна. Там кожны, як відаць, лічыць, што ён homo universum, здольны на ўсё, унівэрсальны чалавек.

Нават гэткі здавалася-б скромны рэдактар, выпушчаючы двутыднёвік „Нашу Волю“, газэтку запраўды унівэрсальную па стылістычнай і ортографічнай безграматнасьці, бярэцца рашаць сусьветныя праблемы, заяўляючы, паміж іншым, што... ніякай Беларусі будаваць яго супрацоўнікі не зьбіраюцца.

Прынамсі ясна... Але ёсьць ізноў і лягер, здольны *трубіць* на ўвесь сьвет аб беларускай незалежнасьці з запалам фанатычнага маніяка, гатовым вырвацца з Польшчы ды папасьць „з магчыма найбольшай беларускай тэрыторыяй“ у гэткую, як той казаў, суседнюю жмудзкую „імпэрыю“.

Гучна, з усім магчымым газэтным гоманам, БІГіК і ТБШ твораць супольны фронт „за родную школу“. Друкуюцца адозвы, дэкляраціі, інструкцыі...

Здавалася-б, што ўсё добра. Нічога благога. Кожны беларускі бацька, маці або законны апякун беларускага дзіцяці мае перад Дзяржаваю Польскаю права, а перад народам сваім сьвяты абавязак, падаць школьным уладам дэклярацыю аб роднай школе.

Але як дайсьці паважаным ТБШ і БІГіК'у да гэтых бацькоў, матак і апякуноў?

Дзе-ж тыя народныя масы, якія зараз-жа разьбяруць бланкеты дэклярацыяў, інструкцыяў і іншых адносных друкаў ды сваё зробяць? Дзе тыя, масы, якія нібыта за ТБШ і БІГіК'ам толькі і ідуць, усёю грамадой?

Слабыя мусі за імі стаяць масы, калі здарылася гэткае, што паўстае пытаньне: „дурната гэта, ці правакацыя?“

А здарылася вось што:

2-га гэтага красавіка, перад роспускам вучняў на вялікодныя вакацыі, кіраўніцтва хлапцоўскага інтэрнату пры Бел. Гімназіі зьвярнула ўвагу, што сярод вучняў, якія зьбіраюцца выехаць на сьвяты ў свае вёскі, распаўсюджаны некім „школьныя“ друкі ТБШ і БІГіК, а таксама газэтка „Наша Воля“, ды яшчэ ў якой колькасьці! 2500 бланкетаў „дэклярацыі“, 300 экзэмпляраў „інструкцыі—як дамагацца дзяржаўнай беларускай школы“ і каля аднае тысячы — шасьцёх нумароў „Нашай Волі“ аказалася ў 11-цёх хлапцоў.

Найцікавей тое, што сярод масы гэтае „Нашае Волі“ ў найбольшым ліку і № 1 (2) за 20.I.1936 г. — нумар *канфіскованы ў свой час адміністрацыйнымі ўладамі...*

Гэта дык ужо ня проста нечая дурната, а сьвядомая злая спроба правакацыі беларускіх вучняў, іх дзіцяча-юнацкіх душаў, правакацыя адзінай беларускай гімназіі, як і ўсяе школьнае акцыі.

Даволі будзе ўявіць сабе палажэньне беларуса-школяра, які папаўся-б на вока першаму-лепшаму паліцыянту ў сваёй вёсцы ці дзе-небудзь на глухой станцыі чыгункі з сотняю-другою беларускіх друкаў, сярод якіх і *сканфіскованая* „Наша Воля“!

Хто напакаваў вучням усіх гэтых друкаў—невядома. Калі здольны мець ня толькі цывільную адвагу, а проста чалавечую годнасьць—хай мае адвагу і прызнацца, каб чыстыя душы дзяцей, бацькі іх ды наагул усе людзі добрае волі нягодніка пазналі і маглі яго заўсёды і ўсюды прынамсі хоць асьцерагацца.

Ды чаму-ж кіраўнікі (нібыто адзінага) фронту „за беларускую школу“ не пастараліся дапільнаваць, каб друкі іх не папалі ў рукі безадказных дэмагогаў-агітатараў (а можа і сьвядомых правакатараў), што стараюцца зрабіць падрыў беларускае гімназіі, спакушаючы дзяцей, якія вучацца ў ёй?

Справа роднае школы вельмі і вельмі паважная, дык і дамагацца яе трэба паважна, каб была яна рэальнаю, каб дала якнайбольшы рэзультат

Вядучы вялікую справу дамаганьня роднае школы, запраўды трэба быць „*чыстымі, як голуб і мудрымі, як зьмей*“...

Маем надзею, што сярод гадунцоў адзінай нашай сярэдняй школы ў Польшчы знойдуцца душы, якія на добрых беларусаў і добрых грамадзян выкіруюцца, і іх наіўны, бяскрытычны юнацкі парыў да беларускага друку, да кожнае беларускае акцыі разумеем.

А ўсім, непаклікаными хадзіць каля вучнёўскіх душаў, палітыканам, дэмагогам, дурням, а тым больш правакатарам, якія ў чыстыя дзіцячыя рукі кантрабандай сунуць нават сканфіскованыя нумары свае газэткі, можам сказаць толькі адно, што тут сказаць трэба, што напэўна разам з намі, разам з настаўніцтвам аднае-адзінае сярэдняе школы, разам з усёю чэснаю беларускаю інтэлігенцыяй, скажа кожны бацька беларускага вучня:

— *Проч рукі ад дзіцячых душаў!*

## Аб вызначаньні падаходнага падатку.

Згодна з прысудам Найвышэйшага Суду той хто плаціць падаходны падатак можа дамагацца на падставе арт. 61 закону аб падаходн. падатку ад адпаведнае ўлады, каб пакліканыя ёю сьведкі і экспэрты прыводзіліся да прысягі. (Прысуд. N. T. A. з 30.X-35 г. I. рэј. 5676/33).

## Зьмена ня толькі тактыкі, але і ідэолёгіі.

Саветы, як ведама на сваім апошнім VII кангрэсе комінтэрну значна зьмянілі сваю тактыку ў адносінах да ўсіх ня толькі некамуністычных, але нават і да буржуазных арганізацыяў.

Зразумела, што аб прычынах такое кардынальнае зьмены сваіх адносінаў бальшавікі ясна не гавораць, а як звычайна замаскоўваюць іх стэрэотыповым пустаслоўем, разьлічаным на безграматныя ці малаграматныя сялянскія ды пралетарскія масы.

Аднак для кожнага, хто ўважліва прачытае адчот аб дзейнасьці апошняга камуністычнага кангрэсу стане ясным, што зьмена камуністычнае тактыкі тлумачыцца дзьвюма вельмі важнымі прычынамі:

1) непапулярнасьцяй дасюлешніх мэтадаў камуністычнай прапаганды сярод шырокіх народных масаў у несавецкіх краінаў і

2) банкруцтвам самое камуністычнае ідэолёгіі. Бо-ж хіба ні для каго ня будзе сэкрэтам, што ад даўнейшых, сапраўды камуністычных лёзунгаў, у сучасных бальшавікоў амаль нічога не засталося.

Даволі будзе толькі прыпомніць іх даўнейшыя адносіны да міру і вайны, самаазначэньня народаў аж да поўнага аддзяленьня работніцкага пытаньня і г. д., ды параўнаць іх з тымі паглядамі, якія яны маюць у сучасны мамэнт на гэтыя пытаньні, каб пераканацца, што паступова з захопліваньнем— ўлады ў свае рукі, ды ўмацоўваньнем на занятых пазыцыях, камуністычная ідэолёгія бальшавікоў пачынала кардынальна зьмяняцца.

**Замест прапаганды міру без анэксыі і контрыбуцыі** пачынаецца шалёнае зброеньне, так званае чырвонае арміі, пры чым у вельмі хуткім часе ў арміі ўводзіцца такая жалезная дысцыпліна, якой хіба няма нідзе на сьвеце. Калі перш бальшавіцкія камісары ўсімі мерамі падрывалі аўторытэт каманднага складу ды ўводзілі так званыя камітэты салдацкіх дэпутатаў, якія падчас бою галасавалі ваяваць ці не; калі перш зрывалі пагоны ў афіцэраў ды касаваліся ўсе камандныя чыны, дык цяпер, калі дарваліся да поўнай улады, тыя самыя людзі паўводзілі на нова ня толькі ўсе чыны, існаваўшыя ў перадваенай расейскай арміі, але паназначалі нават аддзін другога генэраліссімусамі (ваеннымі маршалкамі) па прыкладу Пятрова-Кацярынаўскіх часоў. Зразумела, што цяпер ня толькі няма мовы аб нейкіх салдацкіх дэпутатах, але наагул радавы салдат зьведзены да ступені абсалютна безправнага чалавека. Правы камандзіра кожнае ваеннае часьці так пашыраны, што часта ён з'яўляецца панам жыцьця і сьмерці над сваім падуладным.

А што-ж сталася з пытаньнем вайны ды міру без анэксыі і контрыбуцыі? Тое самае, што і з салдацкімі дэпутатамі. Цяпер савецкі ўрад заключыў розныя яўныя і тайныя ваенныя саюзы (апошні з Францыяй і Кітаем), якімі забавязаўся памагаць сваім саюзьнікам падчас вайны з іхнімі ворагамі — г. значыць, забавязаўся ў кожную хвіліну кінуць увесь народ „Савецкае імпэрыі“ ў **новую крываву бойню, выкліканую**, так званымі, **буржуазна - капіталістычнымі дзяржавамі**.

Ня лепш прадстаўляецца справа і з другім кардынальным пытаньнем, **з самаазначэньнем народаў**.

Даваенную Расею ўсе называюць **турмою народаў**, а якжа прадстаўляецца цяпер „свабодны“ саюз савецкіх сацыялістычных „рэспублік“?

Спачатку самі бальшавікі пры помачы камуністаў паасобных нацыянальнасьцяў, паверыўшых у праўдзівасьць кіненых Масквою лёзунгаў, патварылі адпаведныя фэдэрацыйныя рэспублікі — Беларускую, Украінскую, Татарскую, Калмыцкую, Азэрбайджанскую і г. д., але вельмі хутка гэны прыгожы сон для ўсіх нацыянальных меншасьцяў у Расеі скончыўся: маскоўскі савецкі ўрад ня толькі не даў гэным рэспублікам самастойнасьці. але нават мінімальнае аўтаноміі. Горш ад гэтага: усіх сьвядомых правадыроў паасобных нацыянальных рэспублікаў паабвінавачвалі ў нацдэмаўшчыне — г. зн. нацыянальным дэмократызме, ды адным махам з імі скончылі — каго расстралялі, каго іншым спосабам „вывялі ў расход“, а большасьць павысылалі на Салоўкі ды ў іншыя „не столь отдаленные места“. У сучасны мамэнт усё кіраўніцтва Савецкай „Украіны“, „Беларусі“ ды іншых савецкіх рэспублікаў знаходзіцца ў руках выключна расейцаў, а галоўны дзяржаўны апарат — „чэка“, знаходзіцца пераважна ў руках не - расейцаў камуністаў, як Мэнжынскі, Славінскі ды інш. Акром таго маскоўскія бальшавікі ў мэтах канчальнага вынішчэньня культуры паасобных народаў, прыдумалі проста чартоўскі спосаб — зрэфармавалі правапіс і так званую „літэратурную“ мову паасобных народаў так, што стварылі нейкі дзівосны жаргон, вельмі мала розьнячыся ад **„общепонятного русского государственного языка“**.

Што-ж датычыць **работніцкага пытаньня**, дык тут „рабоча-сялянская“ ўлада выперадзіла найбольш заядлых, буржуяў - эксплёататараў, бо-ж прыдуманая бальшавікамі „ударшчына“ і „стаханаўшчына“ перакрэсьлілі цалком ня толькі 8 - мігадзінны рабочы

# З выдавецкае нівы.

„*Маладая Беларусь*“, літаратурна-грамадзка-навуковы часапіс. Кніжка 1. 1936 г. Год 1. Вільня. Рэдагуе калегія. Рэдактар: Вітаўт Тумаш. Выдавец: Мікалай Шчорс.

Кожны малады парыў — рэч вартая ўвагі тады, калі мае ён перад сабою высокую мэту, ідэю, конкрэтнае пераканаНьне... Горш, калі парыў гэты страляе ў пустату.

Што і каму засьвярбела, каб выпусьціць *дублетам* квартальнік „Калосьсе“ пад даўно ўжо калісь задаўшымся ў беларускім друку назовам „Маладая Беларусь“?

Бо „*Калосьсе*“ і гэты новы часапіс маюць зьмест зусім аднатыповы: вершыкі ўсіх, хто ахвоч да беларускай графоманіі, тое-сёе з старых летапісаў у „дзівоснай“ перадачы сучасным нам правапісам (чаго ў іншым навуковым сьвеце ня чуваць!), саромліва-галаслоўная крытыка „старэйшага грамадзянства“, нейкіх абстракцыйных „павадыроў“, перадрук узору савецкага соцыяльнага заказу, а ў хроніцы абавязковы плявок у дырэктара гімназіі Астроўскага, з падшыркваньнем, што дырэктар гэты і далей застаецца дырэктарам...

Ці-ж беларускі народ вельмі шмат выйграў-бы, каб Р. Астроўскі, замест выкладаньня ў гімназіі ды кіраваньня ёю, пайшоў рээстравацца ў дзяржаўнае бюро пасярэдніцтва працы? Ці ў бюры гэтым так-такі беларусаў зусім няма?

Дырэктароў гімназіяў у іншых народаў ёсьць шмат, а ці-ж адзін з іх „пападае ў літэратуру“ ў гэткім, як у нас, хамскім сьвятле?

Чытаючы падобны выбрык аўтораў (віленскай) „Маладой Беларусі“ наш просты дзядзька з вёскі, аддаўшы сваё дзіця ў гімназію, напэўна падумае:

— Што за накідзь гэткая? Ці гэтак шмат ужо ў нас людзей, прыдатных на гімназійных дырэктароў? Астроўскім, як дырэктарам гімназіі, напэўна магла-б гардзіцца кожная культурная нацыя або прынамсі хоць шанаваць яго. Бо дырэктарам і пэдагогам ён не ад сяньняшняга дня! І што ў гэтым дырэктары не падабаецца „маладым“ людзям, якія сваіх дзяцей у беларускай гімназіі ня вучаць? Можа тое, што дырэктар гэты носіць вусы, а ня голіць іх, як той ксёндз? А можа чуб не на той бок, не на левы, зачэсвае? Не разьбярэш...

Бравада моладасьцю наагул не адносіцца да вялікіх цнотаў — моладасьць паняцьце ўмоўнае і зьявішча каротка-часовае. Некатрым з аўтораў „Мал. Беларусі“ яна нават зусім ужо не да твару, бо запраўды ёсьць там ужо і бацькі дзяцей, якіх не сягоньня-заўтра трэ' будзе вучыць у школах.

Ну, але што-ж? Калі быў у гісторыі „дзіцячы паход“ на Сьвятую Зямлю, дык можа быць і „дзіцячы паход“ на Беларусь, якая існуе, пакуль што, толькі ў нашым інтэлігенцкім уяўленьні.

Каб не праф. Карскі, дык напэўна і дасюль невядома было-б,— ня толькі аўторам „Маладой Беларусі“,—на якіх абшарах мы жывём.

Але што Карскі? Сэрцу „маладых“ аўтораў мілейшы „сов-поэт“ Александровіч (у „М. Б.“ надрукавана аж некалькі разоў „Аляксандровіч“), які навет без матыкі, з адным толькі савецкім пяром у руках, гатовы кінуцца проста на... сонца. Поэзія яго запраўды нябывалая на сьвеце:

„Сонца, ты любіш купацца на стрэхах,
Любіш сесьці на загніўшым крыжы,
Ведай, толькі-кажу я ня сьмехам,
Лепш ня сунься са мной на нажы.
. . . . . . . . . . . . . . .
Мае грудзі сьціскаюцца туга,
Злосьць скрыгоча цябе разьбіць.
Але я, як і ты, валацуга,
А працоўным буду служыць.

Запраўды „вялікая“ *прелесть* у падобным насьледаваньні п'янае расейскае есенішчыны, а Беларусі пажытак, як „старой“, так і „маладой“!?

Паўбяды яшчэ, што Александровіч хоць пісаць умее, а вось тутэйшы, сказаў-бы той, „пясьняр вастрогу“ Максім Танк? Ніякая граматыка, ні беларускі слоўнік, ні найпрасьцейшыя правілы рытмікі яго не абавязваюць. Чытаем, напр., у яго вершы „Сэзановец“ (мусі ад *сэзон?*):

„Муры і неба кавалак між кратаў,
быццам прадмесьце далёкае ўсе ў агнях....
Ціха —
крокі дазорцы,
кашаль з апошніх этапаў.
Вершы—парваныя думкі ў руках.

дзень, але проста паставілі ўсіх работнікаў у такія жудасныя варункі, каторыя прыпамінаюць сабою **катаржныя работы.**

**Зямельнае пытаньне** ў Саветах прайшло яшчэ большую эволюцыю, але аб гэтым больш падрабязна напішам у наступным нумары нашае газэты.

Паўстае такім чынам пытаньне: на што было праліваць столькі нявіннай крыві, каб праз некалькі гадоў вярнуцца амаль што да таго, супроць чаго вялася такая жорсткая ды бязьлітасная барацьба?

Ці-ж сучасным валадаром Крэмля залежала толькі на зьмене дынастыі ды замене даваенных буржуяў так званымі совбурамі?

Аказваецца што гэта так, і што **бальшавіцкая Масква з'яўляецца крыніцаю не ўсясьветнае рэвалюцыі, а хутчэй усясьветнай рэакцыі, каторую нясе ўсяму сьвету бальшавіцкая „рэвалюцыя“.**

# Праўны куток.

**Мальвіне К. Браслаўшчына.**

Пасьля сьмерці майго дзеда )бацькі маей маткі) у 1914 г. засталося 18 дзес. зямлі, якой уладаў ён на праве ўласнасьці, пачынаючы ад 1886 г. Зямля гэта надзельная. Меў ён дзьве дачкі: маю матку, якая у 1900 г. выйшла замуж да іншай вёскі і другую, якая жыла праз увесь час пры дзедзе. Матка мая, выходзячы замуж, атрымала пасаг: тры каровы і каня. Памёрла яна у 1909 г., я-ж радзілася ў 1908 г. Успомненай зямлёй, пачынаючы ад 1914 г., — ад сьмерці дзеда — уладае мая цётка (сястра маей маткі). Ці магу я дамагацца належнай маей матцы часьці, ці мае значэньне справа пасагу і ці не зайшла даўнасьць?

**Адказ**: Калі Вашая цётка дабравольна не захоча зьвярнуць Вам паловы зямлі, у дадзеным выпадку 9 дзесяцін, можаце падаць у суд, бо ёсьць магчымасьць адсудзіць успомненую палову. Падставовае значэньне ў гэтай справе мае адказ на пытаньне: ці ў Вашай ваколіцы быў звычай, што дачка, якая выходзячы замуж атрымала пасаг, траціла права да бацькаўшчыны (спадку), ці не? Калі такога звычаю ня было — ёсьць магчымасьць выйграць справу, бо даўнасьць у адносінах да Вас пачала бегчы ад 1929 г. (ад Вашай паўналетнасьці). Згодна з вышэйшым, маеце час да 1939 г. на злажэньне позву (скаргі) у Суд; лепш аднак гэтай справы не адкладаць, тым больш, што зямля можа перайсьці ў трэція рукі.

Адносна пасагу, які атрымала Вашая матка, — вартасьць яго можа быць адлічана з прысуджанай Вам часьці.

# Гаспадарчы аддзел.

### Як садзіць пладавыя дрэўкі.

(Працяг).

Садзячы дрэўка, трэба ведаць, што яно мае знаходзіцца на такой самай глыбіні, як расло раней. Трэба высьцерагацца глыбокага саджэньня, асабліва ў землях цяжкіх, каторыя больш асядаюць, як землі лёгкія, пясчаныя. У вільготных грунтох лепш дрэўкі садзіць у копчыках.

Прыступаючы да саж э н ь н я ўстаўляем калок і насыпаем у яме копчык зямлі, узятай з паверхні грунту, потым, устаўляючы дрэўка ад поўначы, раскладаем карэньні, па магчымасьці раўнамерна ўва ўсіх кірунках. Садзіць трэба абавязкава дзьвюм особам, каб адна з іх трымала дрэўка, а другая засыпала верхняю зямлёю, не звальваючы аднак яе, але роўнамерна абкідаючы яе навокал карэньняў, пры гэтым асоба, трымаючая дрэўка, павінна лёгка ім патрасаць і пальцамі ўпіхаць зямлю між карэньняў, каб яна магла ўсюды дастацца. Пасьля засыпкі карэньняў выпаўняецца яма рэштай зямлі, а потым утаптываецца і толькі пры краёх, не пры самым пні. Пры цяперашнім веснавым саджэньні добра, замест ўтаптываньня, даць два вядра вады, каторая сваім цяжарам уцягне зямлю між карэньняў. Пасьля, як дрэўкі пасаджаны, прывязваем іх да калка саломаю, або лазою, аднак у такі спосаб. каб вязаньне на дрэўку было вышэй, а на калку ніжэй і замацавана даволі свабодна, каб дрэўка не апала разам з зямлёю.

Калі зямля асядзе — што бывае звычайна ў траўні—чэрвені — тады прывязваем дрэўка на заўсёды

Дрэўкі, пасаджаныя ў восені, трэба забясьпечыць перад марозамі, абсыпаючы навокал дрэўка копчык вышынёй 50 цм., а сам пень, агортваючы саломаю або яловымі галінамі. Агортываць дрэўкі трэба толькі пасьля таго, як спадзе сьнег.

Сьпіс адменаў, каторыя можна парадзіць садзіць у віленскім і наваградзкім ваяводствах:

*Летнія яблыні:* Белая Аліўка, Папяроўка.

*Васеньнія яблыні:* Баравінка, Бержэнецкі Ананас, Антонаўка поўт.-фунт., Анісаўка, інфлянцкі Графштынак, Кронсэльская, Шэрае яблыка, Курская Шклянка, Цітаўка.

*Зімовыя яблыні:* звычайная Антонаўка, каменная Антонаўка, Экеро, Цыганка, Коштэля, Монтвілаўка, літоўская Пэпіна, Залатое зернятка, Чорнагуз.

*Грушы*: чырвоная Бергамота, расейская Цукроўка, шэрая Добрая, Мядзьведзяўка, Сальсбуры.

*Сьлівы*: зялёная Рэнклёда, Рэнклёда Альтана, звычайная Вэнгерка, цукровая Вэнгерка, Доляньская Вэнгерка.

*Вішні*: Остгеймская Гішпанка, падвойная Шклянка, Уладзімірка, цяністая Горычка. *К.*

### Пчалярскі куток

*Першы аблёт пчол.* Пчолы, якія зімуюць на двары, маюць магчымасьць у першы цёплы дзень выляцець з вульля. Вось гэты першы вылёт пчол называем першым вясеньнім аблётам. Пчолы, якія зімуюць у імшаньніку могуць прабываць у вульлёх даўжэй, калі з восені накінена ім здавальняючая колькасьць мёду. Наагул практыка паказала, што пчолы зімуюць лепш на пчальніку, калі вульлі адпаведна цёплыя, бо ў адпаведную пару могуць заўсёды абляцецца. Пчолы праз цэлую зіму ня маюць магчымасьці выпаражніцца, а першы аблёт гэта першая аказія. Пчалінае выдзяленьне, калі ўпадзе на сьветлую вопратку або бялізну, то застанецца пляма, якую амаль немагчыма абмыць і таму пчалавод павінен папярэдзіць суседзяў, каб не сушылі бялізны на двары ў дзень, калі можна спадзявацца першага аблёту.

У дзень першага аблёту прысутнасьць пчалавода ў пчольніку пажаданая, бо з самога аблёту ўжо можна прыблізна даведацца, ці пчолы перазімавалі добра. Сільны, бадзёры і кароткі аблёт сьведчыць аб тым, што пчолы выйшлі з зімоўкі добра, слабыж—доўга трываючы і з перарывамі кажа нам, што ў пчолаў нешта ня так, як трэба. Калі падчас аблёту пчолы лазаць па вульлі, якбы нечага шукаючы, насоўваецца падазрэньне, што пчолы страцілі матку. Бываюць прыпадкі, калі з паасобных вульлёў робяць аблёт пчолы пазьней, а калі мы пэўны, што мёд у іх ёсьць, то ня трэба іх надарма трывожыць і заглядаць у вулей.

У першы цёплы дзень пасьля аблёту трэба заглянуць у кожны вулей, а у першую чаргу ў вульлі, што да каторых пэўнае ёсьць падазрэньне.

Калі ў крайніх рамках мёду мала або зусім няма—значыць і ў сярэдзіне яго няма, бо пчолы спажываюць спачатку запас над чарвой, якая ў гэты час хоць у малой колькасьці ўжо ёсьць. Калі надвор'е ўжо настолькі цёплае, што цэлае гняздо можна пераглядзець, то добра зараз-жа і вычысьціць дно ў вульлі, каб пасьля дарма ня трывожыць пчолаў. Пчолаў, якія ня маюць мёду, або вельмі мала, трэба падкарміць мёдам або сытой, якая варыцца з дзвёх частак цукру і аднэй часткі вады.

Прыварцы сыты добра даваць саліцылавай кісьлі (Kwas salicylowy) на адзін кілёграм адзін грам. Кісьля гэтая дадаецца дзеля таго, каб сыта не закісла. Апрача таго кісьля гэтая дзеіць прачышчаючы. Сыту падаваць пчолам можна ў плоскай пасудзіне, або лепш наліць яе ў вашчыну і так, разам з рамкай, уставіць на места вынятай парожнай рамкі ў гняздо Калі сямейка пчолаў малая, а гняздо вялікае, дык трэба пакінуць пчолам столькі рамак, скольки вулачак між рамкамі яны займаюць, а рэшту рамак трэба забраць, бо ў вялікім гнязьдзе пчолам горай бараніцца ад пчолаў-зладзеяў, якіх у гэтую пару ёсьць шмат. Усе маніпуляцыі трэба праводзіць асьцярожна, каб ня даць магчымасьці пчолам-зладзейкам паласавацца чужым мёдам, бо тады можа паўстаць сапраўдны грабеж, пры каторым нават і інтэрвэнцыя чалавека мала паможа. Каб усьцерагчыся ад грабежу, трэба старацца работу пры пчолах рабіць хутка і глядзець, каб не разліваць сыты, а лёткі ў вульлёх трымаць зьменшанымі аж да часу, калі пчолы будуць мець пожыву паддастаткам у полі.

Бывае, што ў некаторых вульлёх падчас зімоўкі заводзіцца сырасьць, дык у гэтых прыпадках трэба ў сонечную пагоду зьнімаць з такіх вульлёў стрэжкі, каб сырасьць выпарылася і ў меру магчымасьці мокрую апакоўку замяніць сухою. Сырасьць заўсёды паяўляецца ў дрэнна дагледжаных вульлёх, а ў адпадведным вульлі пчолы зімуюць заўсёды добра. Пчолы ў сырым вульлі часта хварэюць на ганячку і найлепшым лякарствам у гэтым прыпадку ёсьць сухі, цёплы вулей.

Раі, якія падчас зімоўкі страцілі матку, і калі не дадаць ім маткі ў хуткім часе, выміраюць. Калі няма запасной маткі, некаторыя радзяць далучаць адматчаныя раі да раёў слабейшых, але з маткай. Гэтую камбінацыю трэба рабіць асьцярожна, каб часам замест аднаго адматчанага не зрабілася два, бо часта пчолы, далучаныя, забіваюць матку. Як пры злучэньні, так і пры дадаваньні запасной маткі, трэба добра яе замыкаць у клетачку (матачнік), каб пчолы да яе прывыклі, а пазьней можна яе выпусьціць.

Найлепш аднак адматчаны рой зьліквідаваць, а найслабейшая сямейка з маткай пры добрым даглядзе часта ў хуткім часе даходзіць да нармальнай сілы.

Пасьля вясеньнага аблёту, пры цёплай пагодзе, пчолы звычайна ідуць на работу: адны носяць ваду, а другія шукаюць пылку і хоць у малой колькасьці нясуць абножку.

**Б. А.**

А на варштаце:
мінулага дні, успаміны.
Я сэзановец, пясьняр із-за крат.
Пальцы апухшыя з сьцюжы па
галасох ўсхваляваных раскінуў.
Я музыкант.

Ці музыкант—гэта яшчэ нічым не даказана, а што разыкант, дык здаецца гэта ўжо ясна для кожнай вёскі, дзе гэткіх малайцоў нямала. Стаўляць радкі стоўбікамі, думаць, што гэта ўжо і поэзія ды сыпаць ёю, як з мяшка, патрапіць кожны. Абы на здароўе! Каб толькі не на сьмех людзкі.

Разумеецца шкада, што з вастрогу пачалося, маладое жыцьцё Танка і яго вастрожнай псыхіцы нельга ніяк пазайздросьціць. Але чаго гэтым ізноў так рысавацца? Хіба вастрог—гэта прывілей „маладых“ беларусаў? Што датычыць ахвярнасьці, дык у гэтак званым „старэйшым грамадзянстве“ яе аж зашмат сярод беларускае інтэлігенцыі.

Літэратура ў „Маладой Беларусі“—наагул дробязь, як і ў „Калосьсі“; некаторыя аўторы і тут і там адныя і тыя самыя. Дык нашто рабіць вельмі благую копію з „Калосься“? Ці на бачынах арыгіналу ўжо стала цесна?

Публіцыстычныя артыкулы на грамадзкія тэмы сьведчаць аб поўнай ідэолёгічнай бясхрыбетнасьці іхніх аўтораў. М. Шкялёнак у артыкуле „Інтэлігенцыя ў культурна-грамадзкім жыцьці“ стараецца па костачках разабраць нашу, як ведама, часта-густа безработную і абсолютна ўбогую матар'яльна інтэлігенцыю, знаходзячы ў яе набалелай душы шмат сьмяротных грахоў. І ўсё гэта ціхенька, бяз ніякай ілюстрацыі сваіх вывадаў конкрэтнымі фактамі, без падаваньня збаўчых рэцэптаў. Мэтад добры для якога-небудзь буржуазнага „сатырыкону“, але ніяк не для часапісу, які прэтэндуе на літэратурнасьць, грамадзкасьць і навуковасьць. В. Грышкевіч, паставіўшы сабе пытаньне „Ці існуе крызыс беларускага руху?“, сам, відаць, ня ведае чаго шукае. Перамыўшы сяк-так у пустаслоўнай муцэ ўсё, што даўно ўжо кожнаму дурню вядома, ён ударaецца ў абавязковы для „маладога“ аўтора цялячы оптымізм, катэгорычна заяўляючы:

„Але ніколі няма крызысу беларускага руху, ані тым больш яго заняпаду“...

Можа гэта і так, калі „Маладую Беларусь“ лічыць пладом расьцьвітаньня, а не заняпаду, калі заплюшчваць вочы на, да ванітаў неахайную, ортографію нашых віленскіх часопісяў за апошнія гады; калі, нарэшце, спакойна прайсьці міма гэткага зьявішча, як працэс *маладых* „дзеячоў“ з г. зв. „Малое Грамады“, дзе суджаны былі і пазасуджваны „літэратары“, якія, паводле горкіх для кожнага чэснага беларуса ды, нажаль, праўдзівых слоў пракурора, ня ўмеюць і падпісацца правільна пабеларуску. Падобны *заняпад*—ясны, здаецца, нават і для сьляпога.

Вучонасьць раптам *памаладзеўшага* на бачынах „М. Беларусі“ д-ра Я. Станкевіча настолькі ўжо слаўная і вядомая, што аб ёй лепш нічога не казаць. Цытаваць летапісы цяперашнім ды яшчэ вельмі часта і „собскім“ станкевічаўскім правапісам — спосаб зусім у навуцы новы. Калі пра летапісы пішацца з навуковаю павагаю і пішацца для вучоных, дык-жа вучоныя ўмеюць чытаць гэтыя летапісы ў транскрыпцыі арыгіналу, вульгарызацыя якога для іх непатрэбна. А простаму беларускаму чытачу сьцяміць пісаніну Я. Станкевіча бязумоўна трудна.

Што за трасянка сабрана ў кніжцы 1-ай „Маладой Беларусі“, найлепш хіба сьведчыць, пасьля 72-х бачын друку, на вокладцы голае тлумачэньне рэдакцыі вось якога зьместу:

„Каб даць магчымасьць гуртавацца каля „Маладой Беларусі“ якнайшырэйшым кругом беларускай інтэлігенцыі, а перадусім (?) *маладой* беларускай інтэлігенцыі, Рэдакцыя зьмяшчае ў часапісе артыкулы і працы, выказаныя пагляды ў якіх часта нават у большай ці меншай меры не згаджаюцца з паглядамі Рэдакцыі“.

Адным словам—атэстат. „Сама сябе раба б'е, што нячыста жне“. Гэта, дык нават і прадзеды нашыя ў часы свае моладасьці ведалі.

Цікава ўсё-ж такі, *як* і ў чым рэдакцыя „Мал. Беларусі“ з сваімі аўторамі не згаджаецца?

Пажывём—пабачым, калі толькі ўся гэта „Маладая Беларусь“ ня будзе няўдалаю спробаю.

*Не—стары.*

